ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 38-ы
№ 67 (2427)
26 жніўня 1969 г.
АЎТОРАК
Цана 4 кап.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

## ДА ЮБІЛЕЮ І. П. КАТЛЯРЭЎСКАГА

Савет Міністраў БССР стварыў камісію па правядзенню 200-годдзя з дня нараджэння выдатнага пісьменніка, заснавальніка ўкраінскай класічнай літаратуры — Івана Пятровіча Катлярэўскага. У камісію ўваходзяць т.т. Глебка П. Ф. (старшыня), Панчанка П. Е., Міхневіч Ю. М. (намеснік старшыні), Анціпаў Г. П., Бажко А. Ц., Бараноўскі А. А., Дзялец М. І., Дзмітрыева Т. Ц., Квашніна І. М., Кавалёў П. Н., Канавалаў Р. В., Куляшоў А. А., Макаёнак А. Я., М. Танк (Скурко Я. І.), Савіцкі А. А., Стэльмах У. М., Хадневіч Т. К.

## САВЕЦКАМУ КІНО—50 ГАДОЎ

**П раз гады і вякі будзе імчаць гэты коннік-віхура, легендарны Чапай, перадаючы эстафету мужнасці і рэвалюцыйнай рамантыкі ўсё новым і новым пакаленням. І ніколі не запустуюць залы кінатэатраў, ніколі не згасне прага гледачоў далучыцца да чалавечнага і дзівоснага мастацтва кіно.**

**Кіно... Невычэрпныя творчыя магчымасці гэтага маладога мастацтва, здольнага глыбока і ярка раскрываць хараство і супярэчнасці жыцця, даваць пераканаўчыя ўзоры гераізму, прынцыповасці і гуманнасці, духоўна ўзбройваць масы гледачоў.**

**Кіно — гэта даследчык і агітатар, дапытлівае вока ў вялікі свет. Таму ў яго мільёны гарачых прыхільнікаў, таму яго любяць людзі ўсіх узростаў і пакаленняў.**

# У АГНІ НАРОДЖАНЫ

Б. ПАЎЛЁНАК,

старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі

У АГНІ народжаны — гэтыя словы можна з поўнай падставай аднесці да савецкага кінематографа. Так, ён, як від мастацкай творчасці, мастацтва сапраўды народнага, нарадзіўся ў агні рэвалюцыйных бітваў Кастрычніка, у гады барацьбы за сацыялізм.

Рэвалюцыя спрасавала час. Нашай краіне, нашаму народу трэба было за дзесяцігоддзі ўзяць вышыні, на штурм якіх іншым народам, іншым краінам спатрэбіліся стагоддзі. Ішла барацьба не на жыццё, а на смерць са старым светам. Камуністы ўводзілі гісторыю ў новае рэчышча.

Жыццё паставіла перад мастакамі пытанне: з кім вы, майстры культуры? Куды вядзе вас натхненне — да цёплай печы ці на рэвалюцыйную барыкаду? Адказ трэба было даваць адразу.

Лепшыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі злучылі свой лёс з лёсам партыі і народа. Першыя ўжо стужкі прагрэсіўных дзеячоў кіно былі поўныя супрацьлегласці традыцыйнаму кінематографу пачатку дваццатага стагоддзя. Насуперак фільмам камерцыйным, якія ставілі перад сабой адзіную мэту — нажыву, з'явіліся творы, якія сцвярджалі ідэі Кастрычніка, стужкі, падпарадкаваныя надзённым задачам часу. Кінематограф пачаў весці летапіс рэвалюцыі, актыўна ўмешвацца ва ўсе сферы грамадскага жыцця.

27 жніўня 1919 года Уладзімір Ільіч Ленін падпісаў дэкрэт Савета Народных Камісараў аб пераходзе фатаграфічнага і кінематаграфічнага гандлю і прамысловасці ў падначаленне Народнага Камісарыята па асвеце. Гэта быў гістарычны акт. Ён падкрэсліў значэнне, якое партыя надае кінематаграфічнай творчасці. Гэта была падтрымка партыі і дзяржавы прагрэсіўных творчых сіл. Савецкая дзяржава раз і назаўсёды вырвала кінематограф з рук гандляроў і спекулянтаў, адкрыла бязмежныя магчымасці для станаўлення і развіцця гэтага віду мастацтва.

Кінематограф ішоў у рытме эпохі, у рытме рэвалюцыйнага часу. Літаральна за дзесяцігоддзе ён прайшоў шлях ад нескладаных фільмаў-агітак да кінастужак, якія і сёння з'яўляюцца непераўзыдзенымі па ідэйнай насычанасці і мастацкай дасканаласці.

Мы прыносім даніну павагі тым, хто ў вельмі цяжкіх умовах грамадзянскай вайны, разрухі, на самай прымітыўнай вытворчай базе, пры сабатажы кінапрамыслоўцаў, ведучы барацьбу з пустой, сентыментальна-салоннай кінатворчасцю, ствараў першыя рэвалюцыйныя фільмы. Часам яны былі наіўныя і бездапаможныя, зробленыя наспех, гэтыя першынцы сацыялістычнага кінамастацтва. Але яны неслі ў сабе зарад рэвалюцыйнай ярасці, нянавісці да старога ладу, пафас стварэння будучага.

Ужо ў гэтыя гады пачала складвацца эстэтыка сацыялістычнага кінамастацтва. Рысы народнасці, партыйнасці, глыбокага пранікнення ў жыццё, высокай эстэтычнай патрабавальнасці развіла ў сваёй творчасці плеяда выдатных майстроў кіно, такіх, як Сяргей Эйзенштэйн, Усевалад Пудоўкін, Аляксандр Даўжэнка, Дзіга Вертаў. «Стачка», «Кастрычнік», «Аляксандр Неўскі», «Іван Грозны» С. Эйзенштэйна па праве складаюць аснову савецкага класічнага кінематографа, а яго бессмяротны «Браняносец «Пацёмкін» і сёння характарызуецца кінакрытыкамі як лепшы фільм усіх часоў і народаў. У скарбніцу савецкай і сусветнай мастацкай культуры ўвайшлі карціны Ус. Пудоўкіна «Маці», «Нашчадак Чынгіз-хана», фільмы А. Даўжэнкі «Арсенал», «Зямля», «Шчорс», публіцыстычныя стужкі выдатнага дакументаліста Д. Вертава.

Вопыт старэйшых дзеячоў кінематографа стаў школай майстэрства для новых пакаленняў творчых работнікаў. І Міхаіл Ром, і Сяргей Герасімаў, і Іван Пыр'еў, і браты Васільевы, і многія-многія з тых майстроў, хто сёння застаецца ў страі і каго ўжо няма сярод нас, заслужана называюцца пераемнікамі заснавальнікаў савецкай кінамастацтва. Метад сацыялістычнага рэалізму, які фарміраваўся і праходзіў загартоўку ў першыя паслякастрычніцкія гады, стаў асновай і славутай ромаўскай Лeніньяны, і «Чапаева», і «Камсамольска», і аптымістычных работ І. Пыр'ева, кінастужак Г. Козінцава, Л. Траўберга, С. Юткевіча, Г. Аляксандрава. Камуністычная страснасць, бескампраміснасць у ідэалогіі, высокі патрыятызм, актыўнае ўмяшанне ў жыццё, гуманізм і высакародства чалавечых адносін, высокая дасканаласць формы — вось галоўныя рысы, якія вылучылі савецкае кінамастацтва на перадавыя пазіцыі ў сусветным мастацтве.

Развіваючы і памнажаючы традыцыі рэвалюцыйнага мастацтва, дзеячы савецкага кіно ў гады другой сусветнай вайны зрабілі экран зброяй барацьбы супраць фашызму і яго звярынай ідэалогіі. Мы добра памятаем, які зарад патрыятызму давалі такія кінастужкі, як «Аляксандр Неўскі», «Сувораў», «Два байцы», «Сакратар райкома», «Нашэсце», «Машанька». Мы ніколі не забудзем выбуховай сілы кінапубліцыстыкі ваеннага часу. Жорсткая і шчырая праўда дакументалістыкі была навукай нянавісці, школай мужнасці і патрыятызму. Хочацца падкрэсліць, што ў вялікім атрадзе кінадакументалістаў у гады вайны была і група нашых беларускіх дзеячоў кіно. На франтах і ў партызанскіх атрадах вялі кіналетапіс усенароднага подзвігу аператары Іосіф Вейняровіч, Марыя Сухава, Уладзімір Цяслюк і іншыя. Мікола Садковіч узначаліў франтавую кіназдымачную групу. Не ўсе вярнуліся з фронту — вайна ёсць вайна. Але мы памятаем пра подзвіг нашых таварышаў і свята шануем памяць тых, хто аплаціў крывёю высокае званне мастака.

Бессмяротная творчасць ваенных гадоў. Архіўны пыл не лёг на кадры, якія ўвекавечылі грознае аблічча вайны. Яны і сёння выступаюць як дакументы, якія выкрываюць злачынствы фашызму. Яны і сёння заклікаюць да пільнасці, перасцерагаюць народы свету ад фашысцкай небяспекі. Яны ўслаўляюць і будуць услаўляць гераічны подзвіг савецкага народа, подзвіг, роўнага якому не ведае гісторыя.

Вайна пакінула глыбокі след у памяці народа. Невыпадкова тэме «чалавек і вайна» прысвечаны лепшыя фільмы апошняга дваццацігоддзя такіх рэжысёраў, як Р. Чухрай, С. Бандарчук, А. Столпер і інш.

Глыбокім пошукам і натхненнем адзначаны многія работы майстроў кіно, якія паказваюць сучаснае жыццё. Яны характарызуюцца сур'ёзным і аб'ектыўным аналізам складаных з'яў рэчаіснасці, пільнай увагай мастакоў да ўнутранага свету чалавека, да маральных праблем, звязаных з пачуццём адказнасці герояў перад савецкім народам, з тымі патрабаваннямі, якія ставіць перад чалавекам сучасная барацьба за сцвярджэнне камуністычнага ідэалу. «9 дзён аднаго года», «Старшыня», «Твой сучаснік», «Ніхто не хацеў паміраць», «Родная кроў» — наўрад ці знойдзеш сёння чалавека, які не ведае гэтых і многіх іншых цудоўных карцін пасляваеннага часу.

Больш за 4300 мастацкіх фільмаў, дзесяткі тысяч дакументальных, навукова-папулярных, вучэбных, мультыплікацыйных і іншых карцін — такі паўвекавы вынік дзейнасці майстроў савецкага кіно. Кіно стала сапраўды ўсенародным відовішчам, самым папулярным відам мастацтва.

Святкуючы 50-годдзе савецкага кінематографа, мы з задавальненнем адзначаем, што беларускія кінематаграфісты ўнеслі немалы ўклад у стварэнне мастацкага і дакументальнага кіналетапісу нашай эпохі. Лёс беларускага кінамастацтва непарыўна звязаны з творчасцю майстроў кінамастацтва Масквы і Ленінграда. Мы ганарымся тым, што ў стварэнні нашых першых стужак прымалі ўдзел В. Гардзін і Ю. Тарыч, што ў творчым актыве беларускага кіно — І. Пыр'еў, М. Данской, Е. Дзіган, Г. Рашаль, А. Файнцымер, што музыку да беларускіх фільмаў пісалі С. Пракоф'еў і на нашай студыі дэбютаваў як кампазітар І. Дунаеўскі, што нашы старэйшыя рэжысёры У. Корш-Саблін, Л. Голуб і іншыя прайшлі школу творчасці на студыях Масквы і Ленінграда. А якое сузор'е майстроў сцэны і кінаэкрана ўпрыгожвае акцёрскі склад беларускіх фільмаў! Паспяхова здымаліся на нашай студыі Б. Бабачкін, М. Сіманаў, Л. Лявонаў, М. Чаркасаў, М. Цароў, В. Андроўская, І. Пераверзеў, М. Названаў, Ф. Ранеўская, В. Белакураў і іншыя вядомыя акцёры. Важкі ўклад у развіццё нашага кінематографа ўнеслі майстры беларускага тэатральнага мастацтва Е. Міровіч, Б. Платонаў, Г. Глебаў, Л. Рахленка, У. Уладамірскі, Л. Ржэцкая, П. Малчанаў, акцёры больш маладога пакалення. Мы ўдзячны многім нашым пісьменнікам, паэтам, кампазітарам, якія звязалі сваю творчасць з кінаэкранам.

Вучыцца ў народа, ствараць для народа — гэты дэвіз быў на сцягу дзеячоў беларускага кіно на працягу амаль паўвекавой яго гісторыі. У меру сваіх сіл і таленту яны пісалі рэвалюцыйную гісторыю народа, адгукаліся на самыя вострыя праблемы часу, ішлі ў нагу з эпохай сацыялізма. Я не буду пералічваць усе назвы мастацкіх фільмаў, выпушчаных нашай студыяй, — іх створана больш 130. Ёсць сярод іх нямала такіх, што ўвайшлі ў залаты фонд савецкага кінамастацтва. Ёсць і такія, якія прайшлі міма ўвагі гледача, не сагрэўшы яго сэрца. У творчасці бываюць і ўдачы і няўдачы. Але, паўтараю, галоўнае, што характарызуе майстроў усіх пакаленняў, — гэта імкненне аддаць свой талент служэнню вялікай справе камунізма.

Асаблівасцю развіцця беларускай кінематаграфіі ў апошнія гады з'яўляецца тое, што аснову творчага калектыву студыі склала моладзь. Большасць — гэта людзі, якія стварылі па адной-дзве карціны, маладыя мастакі, якія перажываюць працэс станаўлення, авалодання творчым і вытворчым вопытам.

Тым не менш, гэта не дае права на скідку, на зніжэнне патрабавальнасці. Мы не можам зміруцца з тым, што разам з фільмамі, якія атрымалі высокую ацэнку грамадскасці, з павільёнаў і цэхаў студыі выходзяць яшчэ карціны шэрыя, малазмястоўныя, расплывістыя ў ідэйных адносінах, а часам і прымітыўныя па сродках мастацкага выяўлення. Гэта недаравальна, таму што большасць нашых творчых кадраў атрымалі добрую прафесійную падрыхтоўку ў навучальных установах і маюць усе ўмовы—сродкі на пастаноўку фільмаў, выдатную вытворчую базу, пастаянны клопат і ўвагу партыйных і савецкіх органаў рэспублікі. Гэта недаравальна, таму што ва ўмовах ідэалагічнай барацьбы, якая ўсё больш і больш абвастраецца, кожны мастак павінен аддаць максімум таго, што ён можа, сцвярджэнню камуністычных ідэалаў, прыгажосці і праўды новага сацыялістычнага свету, бескампраміснай, непрымірымай барацьбе супраць буржуазнай ідэалогіі. Сёння для мастака мала прызнаць правільнасць нашага светаўспрымання, яго трэба адстойваць у барацьбе, адстойваць як справу нашага жыцця, як наш абавязак перад будучымі пакаленнямі.

Мы верым, што калектыў студыі «Беларусьфільм» у бліжэйшы час выйдзе на новыя рубяжы ў творчасці.

Не можа не радаваць, што ў апошні час адбыўся зрух у беларускім дакументальным кіно. Заслужаным поспехам адзначаны такія кінастужкі апошніх гадоў, як «Генерал Пушча», якая атрымала Дзяржаўную прэмію БССР, «Арліная крыніца», «Тваё і маё юнацтва», «Штрыхі да партрэта», «Колькі шчасцю гадоў» і «Кветкі ў снежні», рад кароткаметражных фільмаў. У рэчышчы добрых традыцый савецкай кінематаграфічнай творчасці ідуць і адзначаная Дзяржаўнай прэміяй БССР карціна «Масква—Генуя» і фільмы «Запомнім гэты дзень», «Анюціна дарога», «Іван Макаравіч», «Годны да нестраявой».

Зараз на здымачных пляцоўках і ў павільёнах вядзецца напружаная работа—ствараюцца новыя фільмы. Рыхтуючыся дастойна адзначыць 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна, У. Корш-Саблін у садружнасці з маладым рэжысёрам М. Калініным ставіць карціну аб лютаўскай рэвалюцыі, а рэжысёр А. Спешнеў — стужку, прысвечаную адной з самых вогненных праблем сучаснасці, — нацыянальна-вызваленчаму руху. Завяршаюцца здымкі каляровага фільма пра вялікага асветніка, змагара супраць цемрашальства і рэлігійнага фанатызму Францішка Скарыну (пастаноўшчык Б. Сцяпанаў). У разгары праца рэжысёра В. Турава над карцінай аб беларускіх партызанах. Ідзе падрыхтоўка да пастаноўкі прыгодніцкай стужкі для дзяцей пра хлапчукоў, герояў вайны (сцэнарый А. Асіпенкі, рэжысёр Л. Мартынюк). Скора будуць зняты першыя кадры фільма пра маладых будаўнікоў (сцэнарыст Ф. Конеў, рэжысёр І. Дабралюбаў). Ідзе работа над сцэнарыем пра героя беларускага народа бацьку Міная. У сцэнарным партфелі студыі — рад іншых сцэнарыяў, якія адлюстроўваюць важныя падзеі і праблемы гісторыі і сучаснасці.

Добрымі тэлевізійнымі поўнаметражнымі фільмамі заявіла аб сабе новае, маладое аб'яднанне «Беларусьфільма». Цяпер тут канчаюцца падрыхтоўчыя работы да здымкаў шматсерыйнай карціны аб мінскім падполлі, якую будзе ставіць рэжысёр В. Чацверыкоў.

Вядома, сёння немагчыма прадказаць экранны лёс кожнай з будучых карцін. Але радуе тое, што творчы калектыў ставіць перад сабою вельмі сур'ёзныя задачы.

Свята 50-годдзя савецкага кінематографа — гэта свята не толькі тых, хто стварае фільмы. Гэта не менш знамянальны юбілей і для сотняў тысяч працаўнікоў, якія папулярызуюць фільмы, — свята арміі кінафікатараў. Я не перабольшваю, ужываючы слова «армія». Толькі ў Беларусі на кінаўстаноўках, у кінатэатрах, органах кінапракату працуе больш як 11 тысяч чалавек. Кожны дзень да іх прыходзіць каля 350 тысяч гледачоў. Прымаць штодзённа столькі гасцей — задача не простая. І трэба сказаць, што большасць работнікаў кінасеткі і кінапракату з поўнай адказнасцю ставіцца да сваіх ганаровых абавязкаў, увесь час шукае шляхоў лепшага абслугоўвання гледачоў.

Рыхтуючыся да дастойнай сустрэчы знамянальнага юбілею — 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна — кінафікатары канцэнтруюць сваю ўвагу перш за ўсё на прапагандзе фільмаў, прысвечаных гэтай даце, карцін, якія раскрываюць у мастацкай форме перамогу ленінізма, абагульняюць вопыт рэвалюцыйнай барацьбы і камуністычнага будаўніцтва.

Кінематограф карыстаецца ўсенароднай любоўю і павагай, пастаяннай увагай Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы. Справа гонару кожнага, хто працуе ў кінематографе, аддаць свае сілы вялікай і пачэснай справе — фарміраванню светапогляду і маральнага вобліку нашага савецкага чалавека.

# «ЖЫЦЬ БУДЗЕ ВЕЧНА»

У гэты дом над Свіслаччу-ракой ідуць і ідуць людзі зімою і летам, вясною і ўвосень, з вёсак і гарадоў, са сваіх і чужых зямель. Ідуць аддаць даніну пашаны і павагі Чалавеку, пабыць сам-насам з выказнікам дум і пачуццяў народных.

Ідуць сэрцам прычасціцца да Яе вялікасці Паэзіі...

Ідуць пакланіцца Песняру...

І гэтак вось—дваццаць пяць гадоў, колькі існуе Літаратурны мемарыяльна-манаграфічны музей Янкі Купалы. Усяго — больш паўмільёна чалавек.

Народная сцежка да гэтага выдатнага помніка не толькі не зарастае, а ўсё больш ператвараецца ў торны, шырокі гасцінец-шлях. Нараджаюцца, сталеюць новыя пакаленні і кожнае з іх лічыць народнага Песняра сваім паэтам, сваім сучаснікам, выказнікам менавіта іх душ...

Музейная кніга водгукаў запоўнена ўсхваляванымі запісамі школьнікаў і навучэнцаў прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў, студэнтаў і маладых рабочых, калгаснікаў і воінаў, моладзі і людзей сталага веку. Запісы ў кнізе не толькі на беларускай ці рускай мовах, але і на мовах многіх іншых народаў Савецкага Саюза, еўрапейскіх і азіяцкіх краін. І ў кожным запісе — прызнанне ў любві, часцінка сэрцаў, кранутых шчырым служэннем Песняра народу, удзячнасць работнікам музея за іх нястомную, карпатлівую навукова-даследчую, масава-асветніцкую і выдавецкую працу.

«З глыбокім хваляваннем наведалі мы, двое гасцей з Латвіі, музей Янкі Купалы, — пісаў сёлета ў жніўні народны паэт Латвіі Ян Судрабкалн. — У гэтым цудоўным, багатым музеі ва ўсёй велічы раскрываецца і аграмадны талент паэта, і яго народнасць, і яго папулярнасць далёка, далёка за мяжой. Асабліва хвалюе мяне сведчанне сувязей Купалы і Райніса, беларускага і латышскага народаў. Выношу самую сардэчную падзяку захавальнікам музея за іх слаўную працу, за гасціннасць. Хай квітнеюць Беларусь і Латвія!».

Так, сабрана за гэтыя гады ў музеі сапраўды нямала. Каля сямі тысяч экспанатаў знаходзіцца зараз у экспазіцыях і ў фондах музея. Самае бясцэннае — рукапісы Купалы. Шмат тут таксама выданняў яго твораў на беларускай мове (выдаваліся ў Беларусі каля 150 разоў!), на мовах народаў СССР і замежных, многа нот (звыш чатырохсот твораў Купалы пакладзена на музыку), кніг аб яго творчасці і кніг з яго аўтографамі, дакументаў — сведак біяграфіі паэта, яго грамадска-палітычнай дзейнасці і творчасці, нямала асабістых рэчаў, падарункаў музею...

Экспазіцыі абнаўляюцца і папаўняюцца ўвесь час, фонды багацеюць з году ў год. Вось і сёлета пляменнік паэта мастак Янка Раманоўскі падараваў музею партрэт бацькі Купалы, напісаны са слоў сястры паэта — Леакадзіі Дамінікаўны Раманоўскай. Паступілі і некаторыя літаграфскія работы Я. Раманоўскага на тэмы твораў Купалы. Пісьменнік С. Шушкевіч расшукаў і прынёс у музей два дарэвалюцыйныя зборнікі вершаў Песняра з аўтографамі. (Кнігі былі калісь падараваны першаму перакладчыку вершаў Купалы на рускую мову Апалону Карынфскаму, яны доўгі час захоўваліся ў сям'і беларускага паэта Юлія Таўбіна). Шмат кніг з аўтографамі Івана Дамінікавіча пецярбургскага перыяду жыцця падаравалі бібліятэка імя Салтыкова-Шчадрына і навуковая бібліятэка Ленінградскага універсітэта.

Сёння самымі цёплымі словамі трэба ўспомніць жонку, сяброўку і паплечніцу Янкі Купалы, заслужанага дзеяча культуры рэспублікі — Уладзіславу Францаўну Луцэвіч. Літаратурна-мемарыяльны музей Песняра — гэта ёю ўзгадаванае, ёю выпеставанае дзіця.

Яшчэ ў той горкі 42-і, калі заўчасная смерць падрэзала паэтавы крылы, была прынята пастанова СНК БССР і бюро ЦК КП(б) Беларусі «Аб літаратурнай спадчыне народнага паэта БССР Янкі Купалы». Усе рукапісы і кнігі, перапіска, фотаздымкі і іншыя матэрыялы, што адносіліся да жыцця і дзейнасці паэта, былі аб'яўлены дзяржаўнай уласнасцю Беларускай ССР. У камісію па збіранні, арганізацыі захоўвання і падрыхтоўкі да выдання твораў паэта, якую ўзначаліў народны паэт Беларусі Якуб Колас, самым актыўным членам увайшла Уладзіслава Францаўна.

Усе, хто ведаў цёцю Уладзю, здзіўляліся яе энергіі, нястомнасці, харошай апантанасці ў рабоце. Мы павінны быць сёння бясконца ўдзячны ёй за тое, што яна столькі змагла зрабіць за сваё жыццё, столькі ўсяго расшукаць і захаваць з паэтавай спадчыны і з таго, што датычыць памяці Івана Дамінікавіча.

Яшчэ не была вызвалена ўся Беларусь, яшчэ ўрад рэспублікі знаходзіўся ў Гомелі, як у 1944 годзе была надрукавана пастанова СНК БССР «Аб стварэнні музея Янкі Купалы». Былі вылучаны неабходныя сродкі, зацверджаны штатны расклад. І дзейнасць камісіі па спадчыне скіравалася ў канкрэтным напрамку — як найхутчэй рэалізаваць пастанову.

І хіба гэта не знамянальна, калі ў амаль дашчэнту разбураным Мінску, дзе кожны метр плошчы пад страхой цаніўся на вагу золата, былі выдзелены першыя тры пакоі для гэтага музея! Яго дырэктарам, канечне ж, была прызначана Уладзіслава Францаўна. І пацяклі ў музей першыя ручайкі наведвальнікаў — нядаўнія воіны і партызаны, рабочыя і будаўнікі, першыя студэнты. Гэта тады, ў адзін з тых дзён, прыйшоў у музей воін-беларус і як каштоўнейшую ношу прынёс старанна захутаны пакунак. У ім быў выдраны з рамы, вывезены гітлераўцамі ў Нямеччыну партрэт Янкі Купалы работы Я. Кругера. Пазнаў воін нашага Песняра, выратаваў партрэт з друзу вайны і доўга захоўваў, пакуль не надышоў вось гэты ўрачысты дзень...

А потым музей перабраўся з Дома прафсаюзаў на вуліцу Энгельса, заняў пяць пакояў у памяшканні Саюза пісьменнікаў БССР. Памятаю, як будучы студэнтамі мы часценька наведваліся ў гэты будынак, «У госці да цёці Уладзі». Як расчульвалася яна, бачачы непадробную студэнцкую любоў і цікавасць да паэта, як старалася гэтая вечная клапатуха ўсё расказаць і паказаць, адарыць якімі памяткамі аб музеі, а то і пачаставаць у бакавым пакойчыку духмяным чаем! Амаль дваццаць гадоў мінула з таго часу, а я і сёння хаваю тыя паштоўкі з партрэтамі Купалы, атрыманыя з рук Уладзіславы Францаўны, і, здаецца, чую пах таго чаю —дужа смачнага на паўгалодны студэнцкі жывот...

Цяперашні двухпавярховы асабняк пабудаваны спецыяльна для музея. Дзесяць пакояў заняты пад экспазіцыямі, астатнія — бібліятэкай, чытальняй-лекторыям, фондамі, кабінетамі навуковых работнікаў, фоталабараторыяй і г. д. Пабудавалі дом у 1960 годзе непадалёку ад таго месца, дзе стаяў драўляны Купалаў дамок, дзе паэт доўгі час жыў перад вайною. Толькі крыху не дачакалася Уладзіслава Францаўна адкрыцця новага будынка музея. Але ўсе экспазіцыі яшчэ распрацоўваліся з яе ўдзелам, усё размяшчала яшчэ яна, і, здаецца, нават сёння экспанаты захоўваюць цеплыню яе руплівых рук.

...Следам за людзьмі яшчэ і яшчэ раз ступаеш на высокія ўсходцы музея. Паволі праходзіш з залы ў залу, падоўгу стаіш перад экспазіцыямі. І здаецца, што народны паэт рэспублікі кожнага абводзіць поўным жыццёвай мудрасці позіркам, размаўляе з кожным, радуецца разам з намі, што даўно ўжо «вечна абдзёртая, вечна галодная» Беларусь «слёзы сагнала з павек», даўно заняла «свой пачэсны пасад між народамі».

Колісь на пачатку сваёй дарогі ў адным з вершаў Янка Купала пісаў: калі «смерць пяўца возьме», усё роўна «песня жыць будзе, у магіле не ўтоне, блага ці добра — жыць будзе навекі!»

Песня вялікага Песняра жыве і красуе!

Ідуць і едуць у музей людзі «зблізку і з далёку», каб прыпасці ды жыватворных крыніц Купалавага духоўнага багацця.

Павел МІСЬКО.

## У ГОНАР СЛАЎНАЙ ГАДАВІНЫ

**Учора ў Мінскім Палацы культуры прафсаюзаў адбыўся ўрачысты сход грамадскасці нашай сталіцы, прысвечаны 50-годдзю Савецкай кінематаграфіі.**

**У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі партыйных, савецкіх, прафсаюзных і камсамольскіх арганізацый, дзеячы беларускага кінамастацтва.**

**З дакладам аб слаўным 50-гадовым шляху савецкага кіно выступіў старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па кінематографіі Б. Паўлёнак.**

■

**На кінастудыі «Беларусьфільм» адбылося ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае святу савецкіх кінематаграфістаў. Пасля даклада намесніка дырэктара студыі С. Семяненкі аб паўвекавым шляху савецкага кіно было заслухана паведамленне аб прысуджэнні студыі «Беларусьфільм» Усесаюзнай грашовай прэміі Дзяржаўнага камітэта па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў СССР і ЦК прафсаюзаў работнікаў культуры за творчыя поспехі па стварэнні мастацкіх і дакументальных фільмаў.**

**Пасля вялікай групе работнікаў студыі былі ўручаны Ганаровыя граматы, каштоўныя падарункі і значкі «Выдатнік кінематаграфіі».**

**Усяго ўзнагароджана каля 150 чалавек. Сярод іх старэйшыя дзеячы беларускага кіно — У. Корш-Саблін, Л. Голуб, А. Булінскі, І. Вейняровіч, У. Цяслюк і іншыя.**

